


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 17 (170) ЛІСТАПАД 2013 ГОДА

**Цытата нумара:**

**Калі мне цяжка, я заўсёды нагадваю сабе аб тым, што калі я здамся - лепш не стане.**

*Майк Тайсан*

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ГАРАДОЦКІ РЫНАК ДЭ-ФАКТА ЎСЁ ЯШЧЭ ПРАЦУЕ

**Гарадоцкі райспажыўсаюз толькі з 11 лістапада пачаў падрыхтоўку часовага месца для размяшчэння гандлёвага рынку. Але пачаў дэмантаж старога месца.**

**Дэ-юрэ Гарадоцкі рынак** павінен быў зачыніцца яшчэ 10 лістапада, але ён **працягнуў сваю працу і далей**. Як і думалася, за дзесяцідзённы тэрмін часовае месца рынка каля Гарадоцкага агратэхнічнага коледжа не было падрыхтавана. Яно **наогул і не рыхтавалася** ў першую дэкаду лістапада.

**Першыя зрухі** пачаліся каля поўдня 11 лістапада, калі райспажыўсаюз пачаў вазіць на часовае месца рынку жалезабетонныя пліты перакрыцця. Праз двое сутак на часовым месцы ўсталявалі дваццаць такіх пліт, а таксама згрузілі з дзесятак пралётаў плота.

На чутках гарадоцкія ўлады ўжо адрапартавалі вышэйшаму кіраўніцтву, што часовае месца падрыхтавана, а рынак закрыты.

І сапраўды, старшыня Гарадоцкага райспажыўсаюза **Наталля Палюховіч** не прадоўжыла далей дамовы з прыватнікамі, якія працуюць на рынку. Ды і сам рынак ужо пазбавіўся агароджа і стаў даступны любым аматарам лёгкай спажывы. Ахоўваць яго стала значна складаней.

Але рынак працягвае жыць сваім жыццём і задавальняе попыт спажыўцоў, якія па ранейшаму яго наведваюць. Колькі працягнецца гэтае становішча пакуль не вядома. Бо часовае месца толькі пачалі падрыхтоўваць.

Відавочна, што **гэта робіцца аўральнымі метадамі** і невядома, калі будзе вакол новага месца агароджа, электрычнасць, зроблена падсыпка і г.д.. Райспажыўсаюз сапраўды будзе мець праблемы напрыклад з энерганадзорам, калі самавольна, без узгаднення усталюе часовую электрыфікацыю новага месца.

Зацягванне пытання з пачаткам будоўлі гандлёвага цэнтра райспажыўсаюза, **як кажуць, першыя птушкі** аб кіпучым аўрале, які будзе чакаць **Гарадок у 2014 годзе** у час падрыхтоўкі да **"Дажынак – 2014"**. Бо напрыклад, рэканструкцыя Гарадоцкага аўтавакзала, запланаваная са сродкаў рэспубліканскага бюджэту на гэты год, так у ім яшчэ і не распачалася.

**Леанід Гаравы**

САЙТ ТВАЙГО ГОРАДА HTTP://HARADOK.INFO

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## КОШТЫ РАСТУЦЬ – ЗАРОБКІ ЗМЯНШАЮЦЦА

**Нацыянальны статыстычны камітэт у новых даных за лістапад зафіксаваў змяншэнне заробкаў амаль ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Асабліва гэта датычыцца Гарадоцкага раёна.**

З ліпеня месяца на Гарадоччыне пачалі змяншацца заробкі. Менавіта ў ліпені быў дасягнуты максімум намінальнага налічанага сярэднемесячнага заробка – 3млн. 950,8 тыс. рублёў, што было на 3,8% вышэй, чым у чэрвені. Але гэты максімум для раёна быў у дзесяцы самых нізкіх сярэдніх заробкаў па краіне.

Толькі з таго часу гэты нізкі заробак пачаў яшчэ і змяншацца. За жнівень сярэдні заробак у раёне склаў толькі 3 851,7 тыс. рублёў, што на 2,6% ніжэй за папярэдні ліпень. І гэты паказчык зблізення работнікаў Гарадоцкага раёна стаў самым высокім сярод малазабяспечаных раёнаў Беларусі. Але ў жніўні набралася толькі каля дзесятка раёнаў, дзе адбылося змяншэнне заробкаў.

А вось ўжо ў верасні тэндэнцыя змяншэння заробкаў набыла агульнанацыянальны маштаб – сярэднія заробкі зменшыліся амаль ва ўсіх раёнах і гарадах Беларусі за выключэннем Лельчыцкага р-на і г. Бабруйска, дзе заробкі засталіся амаль ранейшымі. У нашым раёне гэта тэндэнцыя засведчыла, што заробкі ў сярэднім зменшыліся яшчэ на 74 тысячы рублёў.

Пры складанай у краіне сітуацыі з фінансамі бачыцца, што і далей заробкі будуць змяншацца. Але ж цэны не застаюцца на месцы і амаль штомесячна павялічваюцца. Толькі за апошні месяц яны павысіліся на электраэнергію, камунальныя паслугі, газ, цяпло, праезд на чыгунцы, на прадукты. І канца гэтым павышэнням не бачна. А гэта ўжо аб'ектыўны крытэрый, што насельніцтву даводзіцца ўсё больш зацягваць паясы пры прапагандыскай апрацоўцы, як добра жывецца на Беларусі..

**Л. Антонаў**

КНІГА СКАРГАЎ

## СМЕЦЦЕ МУСІЦЬ ЗАЗІМУЕ

**У дварах дамоў №25, №27 па вул. Пралетарскай г. Гарадка ўжо больш паўгода, як утвораны несанкцыянаваны сметнік.**

З вясны гэтага года ў двары дамоў №25, №27 па вул. Пралетарскай звазілася будаўнічае смецце: бітая цэгла, пліты, парэшткі даху, рубероід і г.д.. Хутчэй за ўсё мэта ўтворанага сметніка ў дварах – ліквідаваць дрыгву дзеля паркавачнай пляцоўкі.

Але менавіта са стварэннем паркавачнай пляцоўкі ўлады і не спяшаюцца. Гэтая безгаспадарчасць у цэнтры горада здзіўляе на фоне запэўнівання рэспубліканскага друка, што ў Гарадку пры Васіле Муранкову ўжо тры гады наводзіцца ідэальны (??!) парадак не толькі ў цэнтры, але і на акраінных вуліцах.

Відавочна, што працы бульдозера на працягу дня хапіла бы для планіроўкі гэтага месца. Праўда пры умове, што гэтае смецце не шкодна для здароўя.

Толькі ў нас у Гарадку усе працы па добраўпарадкаванню, акрамя вайсковых могілак і плошчы, перанесены на 2014 год. Каб у традыцыйным аўральным тэмпе зрабіць тое, на што патрабуецца не менш года працы. Якасць працы будзе адпаведнай аўральным тэмпам працы.

Таму ёсць усе шанцы, што гэты сметнік таксама будзе чакаць "Дажынак – 2014".

**Л. Антонаў**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## НАШЫ ДВАРЫ

**Гарадок чакае добраўпарадкавання ў межах падрыхтоўкі да "Дажынак-2014". Але ці дойдзе гэта добраўпарадкаванне да нашых двароў?**

Восень заўжды ставіць сваю адзнаку якасці нашых двароў і дарог. Менавіта восенню бачны усе хібы на дарогах і дварах. Бо дажджы паказваюць "якасць" дабраўпарадкавання нашых мікрараёнаў і двароў.

Восенню становіцца яскрава бачна, што сродкі бюджэта кінутыя на аграгарадкі і лядовыя палацы павінны мець зусім іншае выкарыстанне. Бо каля нашых пад'ездаў утвараецца восеньская рака ці мора. А пасля першых маразоў, калі першы лёд разбіваецца, то ледзяныя ямы застаюцца на ўсю зіму.

У межах падрыхтоўкі да "Дажынак – 2014" плануецца па папярэдняй інфармацыі выкарыстаць больш двух трыльёнаў рублёў. Як звычайна гэта ў першую чаргу датычыцца цэнтральнай часткі горада. А ці загляне гэтае добраўпарадкаванне да нашых двароў, пад'ездаў – вялікае пытанне.

На гэта пытанне чакаюць становучага адказа жыхары дома 27 па вул. Камсамольская. Перад домам у двары восенню і вясной утвараецца рака, якую даводзіцца фарсіраваць аўтамашынам, каб пад'ехаць да пад'езда. І гэтае становішча цянецца ўжо не адзін дзесятак гадоў.

Відавочна, што гэтую праблему неабходна вырашыць. Вось толькі ці дойдуць да гэтага рукі ў арганізатараў "Дажынак – 2014"?

Наогул было бы цікава мець магчымасць ведаць увесь план падрыхтоўкі да "Дажынак", які арганізацыйны камітэт пад кіраўніцтвам намесніка старшыні Савета міністраў Міхаіла Русага павінен быў распрацаваць да 13 лістапада.

**Л. Антонаў**

СПАРТЫЎНАЯ НАВІНА

## ВЫЙШЛІ Ў ПЕРШУЮ ЛІГУ

**"Прамень" (Гарадок) вярнуўся ў першую лігу чэмпіяната Віцебскай вобласці па футболу пасля гадавога перапынку**

Апошні тур чэмпіяната вобласці ў фінальнай частцы па пераходу ў першую лігу раставіў усе кропкі над І. На першым месцы засталася "Дынама" (Лёзна), на другое выйшла каманда ФК "Полацкгаза", а на трэццяе месца падняўся "Прамень" (Гарадок). Гэтыя каманды і перашлі ў першую лігу.

Ключавым матчам туру была сустрэча ў Паставах, дзе ПМЦ-Паставы прымалі "Алімп" з Чашнік. Гаспадары поля пераканаўча ў суботу перамаглі гасцей з лікам 4:1. А вечарам з'явілася інфармацыя, што "Прамень" (Гарадок) атрымаў тэхнічную перамогу над "Лепелькой": 3:0. Перамога залічваецца тэхнічна, калі каманда не выязджае на гульню. Аўтсайдзер фінальнай часткі палічыў за лепшае не ехаць у Гарадок і атрымаў тэхнічную паразу.

Пасля гэтага засталося чакаць выніка гульні ў Полацку, дзе "Полацкгаз" прыймаў лідэра фінальнай часткі – "Дынама" (Лёзна). Гаспадароў задавальняла толькі перамога, без якой яны не траплялі ў першую лігу. У роўнай барацьбе "Полацкгаз" яе і дасягнуў: 1:0.

У выніку ў наступным сезоне ў першай лізе Віцебскай вобласці па футболу будуць гуляць: "Дынама"(Лёзна), "Полацкгаз" і "Прамень" (Гарадок). Першую жа лігу пакіне "Даламіт" (Руба), якая атрымала за сезон толькі дзве перамогі. Чэмпіён Віцебскай вобласці яшчэ не вызначыўся, бо 3 лістапада "Прыазер'е" (Верхнядзвінск) прайграла "Сянно" з лікам 2:0. Зараз усё вызначыцца ў апошнім матчы "Прыазер'е" (Верхнядзвінск) – "Газавік" ( Віцебск). "Прыазер'ю" патрэбна толькі перамога.

**Л. Антонаў**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# АБАРАНІЦЬ МІКАЛАЯ СТАТКЕВІЧА АД ПЕРАСЛЕДУ ЦЭНЗУРЫ

**Леанід Гаравы, актывіст Руху "За Свабоду!", сябар БСДП(Грамада) накіраваў скаргу на дзеянні турмы №4 г. Магілёва наконт абмежавання права палітвязня, экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча на ліставанне.**

Падставай для падрыхтоўкі скаргі стала паштоўка ад **Міколы Статкевіча** з паведамленнем, што папярэдні ліст актывіста **не прайшоў цэнзуру**.

**Леанід Гаравы** пастаянна вядзе ліставанне з палітычнымі вязнямі, якія знаходзяцца за кратамі: Мікалаем Статкевічам, Міколай Аўтуховічам, Алесем Бяляцкім і іншымі. Пры ліставанні з Мікалаем Статкевічам часам узнікае сітуацыя, калі лісты актывіста не даходзяць да адрасата, бо іх не прапускае цэнзура. Так атрымалася і з апошнім лістом сябра Руху "За Свабоду!", які ён напісаў напачатку лістапада.

У атрыманай ад Статкевіча паштоўцы напісана: *"Атрымаў пусты канверт ад Вашага ліста з пазнакай цэнзуры. Значыць, Ваш ліст быў вельмі добры :). Дзякуй за падтрымку. Посьпехаў і плёну ў Вашых справах!"*

Леанід Гаравы лічыць, што гэта неабгрунтаванае абмежаванне права на ліставанне экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча. Аналагічныя лісты ў няволю без абмежаванняў даходзяць да іншых палітвязняў з якімі вядзе ліставанне актывіст. У лісце няма ніякага грэбавання да нормаў грамадскай маралі і маральнасці, а тым больш нахабства і бессаромнасці, што магло бы быць падставай для не накіравання ліста да Міколы Статкевіча.

**Актывіст мяркуе**, што магілёўскім цэнзарам з турмы №4 гіпатэтычна маглі не спадабацца наступныя абзацы з яго ліста: *"Без пераводу стрэлак ўжо і раніцай і вечарам цёмна. Цёмна і ў беларускіх перспектывах. Замест рашэння рэальных праблем развіцця краіны ўлада цешыць сябе ілюзіяй, што ўсё добра, а гэта да добра не даводзіць.*

*Шкада перш наперш нашых дзетак, калі ім давядзецца разбірацца з праблемамі, якія ствараліся некалькі дзесяцігоддзяў. І пры гэтым наш кіраўнік нядаўна заклікаў моладзь не рабіць пераменаў. Святлана Калінкіна дала на гэта ў "Народнай волі" разгорнуты адказ. Мяркую, што вы чытаеце "Народную волю" і знаёмы з яе адказам. Нельга з ёй не пагадзіцца, што заклікі спыніць час і баяцца пераменаў падобныя на адчайныя і бездапаможныя заговоры спалоханага і дэзарыентаванага чалавека.*

*Сёння, як і 20 гадоў назад, як кажуць у поўны рост паўстала пытанне пераменаў без якіх немагчыма рух да годнага жыцця. Намесца хбескантрольная ўлада здзіўляе сваёй неадэкватнасцю і адарванасцю ад рэальных праблем."*

Леанід Гаравы накіраваў **скаргу** на неправамоцныя дзеяння службовых асоб магілёўскай **турмы №4** ва **ўпраўленні дэпартамента выканання пакаранняў МУС па Магілёўскай вобласці**.

**Л. Антонаў**

СПАРТЫЎНАЯ НАВІНА

# ПЕРШЫ СТАРТ – КАМЯКОМ

**На першым старце сезону ў швецкім Эстэрсундзе наша зямлячка Настасся Дубарэзава дапусціла шмат промахаў і не атрымала заліковых ачкоў у Кубак свету.**

28 лістапада адбыўся першы старт сезону сярод біятланістак у залік Кубка свету. Перанесеная з серады старты не прынеслі поспеху беларускім біятланісткам за выключэннем Надзеі Скардзіны.

Але менавіта Надзея Скардзіна на першым старце сезону ў змешанай эстафеце 24 лістапада стала галоўным расчараваннем для беларускіх аматараў біятлону. На першым этапе эстафеты Надзея атрымала два дадатковых штрафных круга пры стральбе стоя і пакінула каманду без надзеі на прызавое месца. Толькі ўдалы старт Дары Домрачавай і паспяховая стральба мужчын прынеслі беларускай камандзе прыстойнае 8-е месца ў змешанай эстафеце.

У гэтай эстафеце нечакана перамагла чэшская каманда якая роўна прайшла ўсе этапы. На трэццяе месца паднялася ўкраінская каманда пасля правальнай стральбы стоя француза Марціна Фуркада, які забыўся аж пра апошні патрон для стральб, атрымаў за гэта дзве штрафныя мінуты, а таксама тры штрафных круга. Тады і быў растрачаны вялікі гандыкап французкай каманды перад другім месцам.

У індывідуальнай гонцы на 15 км не зусім чакана перамагла чэшка Габрыэла Саўкалава, якая роўна прайшла ўсю дыстанцыю мела толькі два промахі. На другую ступеньку пьедэстала паднялася славачка Настасся Кузьміна, а трэццяе месца ў францужанкі Мары Брунэт.

Бясспрэчны лідэр мінулага сезону нарвежка Тура Бэргер апынулася толькі на 23 месцы пры пяці промахах, чаго за ёй у мінулым сезоне не назіралася. Надзея беларускай каманды Дарья Домрачава дапусціла чатыры промахі пры стральбе стоя і атрымала шостае месца. Адразу за ёй у секундным інтэрвале размясцілася Надзея Скардзіна, якая дапусціла толькі два промахі, як і прызёры гэтай гонкі.

Наша зямлячка Настасся Дубарэзава стартавала ў чацвёртай дзесятцы пасля асноўных лідэраў жаночага біятлону і дапусціла аж сем промахаў. Вынікам гэтага стала толькі 67-е месца, якое не прыносіць ніякіх ачкоў у агульны залік Кубка свету. Але яшчэ больш сумна тое, што па чыстаму бегу наша былая лыжніца прайграла і кітаянцы Шанг Ян.

Настассі неабходна хутчэй пазабыцца пра першы старт і сканцэнтравацца на заўтрашнім спрынце, каб трапіць у нядзельную гонку праследавання.

**Л. Антонаў**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# АЛКАГОЛЬ ВАЛІЦЬ ЛЕСНІКОЎ

**У філіяле "Гарадоцкі лягсас" ААТ «Віцебскдрэў» вясной адбыўся жахлівы смяротны выпадак праз злоўжыванне алкаголю на працоўным месцы. Але ён не стаў урокам.**

**Намеснік пракурора Гарадоцкага раёна Максім Зіновік на сайце райвыканкама** распавёў аб "крывавай парубке", якая адбылася з вальшчыкам лесу філіяла **"Гарадоцкі лягсас"**. Гэты трагічны выпадак адбыўся вясной на лесасекі, каля вёскі Аўданькі Гарадоцкага раёна. У абедзенны перапынак вальшчык, лесаруб і механізатар вырашылі адзначыць «удала» распачатую працу і "распілавалі" дзве прынесеныя з сабой бутэлькі віна " Талачынскае » кожная ёмістасцю па 0,7 літра.

Праца пайшла «весялей», але ў 16 гадзін 20 хвілін **вальшчык** з-за ап'янення не ўтрымаў у руках бензапілу. Бензапіла, нібы пратэстуючы супраць рук п'янага работніка, шынай слізганула ўверх па ствале дрэва і ўпала на яго зверху. На вачах у аслупянелых ад жаху сабутэльнікаў, **піла разваліла грудную клетку да паловы**. Імгненна з раны ў неба ўдарыў фантан крыві. Смерць вальшчыка наступіла практычна імгненна.

Лесаруб жа і механізатар філіяла «Гарадоцкі лягсас» па патрабаванню пракуратуры раёна за п'янства на працы прыцягнуты да дысцыплінарнай і адміністрацыйнай адказнасці.

Гэтая трагедыя не стала ўрокам для іншых работнікаў лягсаса. Толькі прайшло пяць месяцаў, як «зялёны змей» зноў паказаў сябе .

Работнікі аднаго з лясніцтваў на возеры паблізу **вёскі Марчанка Гарадоцкага раёна** адзначалі сваё прафесійнае свята багатай выпіўкай.

Вечарам, каля 16 гадзін, службовы аўтамабіль развозіў ладна падпітых лесарубаў па дамах.

Адзін з іх ужо знаходзіўся ў такім стане алкагольнага ап'янення, што самастойна выйсці з машыны ён не мог. Дадому яго адвёў сын, які і паклаў яго спаць. Але ўжо праз пару гадзін блізкія заўважылі, што гэты ляснік не падае прыкмет жыцця.

Згодна з заключэннем медыцынскай судовай экспертызы канцэнтрацыя спірту ў крыві нябожчыка склала **смяротныя 4,7 праміле**.

**«Дзень работнікаў лесу»** прайшоў 15 верасеня, але ўжо без гэтых леснікоў, прычынай гібелі якіх стаў «зялёны змей». Хочацца верыць, што вышэйзгаданыя факты стануць урокам для іншых, і падобныя выпадкі на тэрыторыі Гарадоцкага раёна больш не паўторацца.

**Л. Антонаў**

ДЛЯ АМАТАРАЎ СЕЦІВА

# НОВАЕ НА САЙЦЕ

У раздзеле **"Карта горада"** з'явіліся карт-схемы **Гарадка і Гарадоцкага раёна**, а таксама карта Гарадоцкага уезда 1820 года. Найбольш карыснай магчыма лічыць гіперссылку на **інтэрактыўную карту Гарадка** па якой магчыма знайсці размяшчэнне кожнага дома ў Гарадку і вёсках раёна.

У раздзеле "**Газета "Гасцінец**" на роднай мове дадаліся ўсе нумары гэтага года ў "**Архіў 2013 года"**. Адпаведна дададзены і апошні нумар "Гасцінца" за кастрычнік.

У гэтым нумары акрамя мясцовых навінаў, якія першапачаткова з'яўляліся на нашым сайце, ёсць і іншыя матэрыялы. У прыватнасці артыкулы **Святланы Калінкінай з "Народнай волі"**: "Беларускі супрацій" ( аб супрацьве знішчэнню свіней на вёсцы), "Откуда взялись деньги на "дворец""( аб выдатках бюджэта на новы палац у Мінске), а таксама артыкул "Як змянілася Беларусь за чатыры гады" вядомага дзеяча беларускай эміграцыі **Янкі Запрудніка**, які наведаў Беларусь гэтым летам.

**Л. Антонаў**

РЭКАНСТРУКЦЫЯ

# АЎТАСТАНЦЫЯ СПЫНЯЕ СВАЮ ПРАЦУ

**25 лістапада апошні дзень працы Гарадоцкай аўтастанцыі па вул. Узгорье д.4**

Напрыканцы 2013 года ў Гарадку на **рэканструкцыю** зачыняецца **аўтастанцыя**, што размяшчаецца ў цэнтры горада. Пра рэканструкцыю аўтастанцыі мы паведамлялі **яшчэ ў студзені месяцы**, калі знаёмілі з Інвестыцыйнай праграмай Віцебскай вобласці на 2013 год.

Зараз напрыканцы года магчыма сказаць, што гэтая праграма датычная Гарадоцкага раёна з большага засталася паперай. Па гэтай праграме ў Гарадоцкім раёне **трэба было рэалізаваць планы** па будаўніцтву дзесяцігоддзямі абяцаных аб'ектаў: «Фізкультурна-аздараўленчы комплекс" па вул. Гагарына, «Лыжа-ролерная траса ў Варабьёвых гарах".

Закладзена ў праграму таксама і «Рэканструкцыя аўтастанцыі ў г. Гарадок". Пры гэтым яе рэканструкцыя будзе ажыццяўляцца са сферы нацыянальнай эканомікі у **памеры мільярда рублёў**.

І вось напрыканцы года, пасля вызначэння Гарадка месцам правядзення "**Дажынак – 2014**", з 26 лістапада мусіць распачацца рэканструкцыя аўтастанцыі. Трэба адзначыць, што навакольныя райцэнтры: Шуміліна, Лёзна, Бешанковічы і г.д. ўжо маюць рэканструяваныя аўтастанцыі і толькі Гарадок усё яшчэ чакаў рэканструкцыі. На час рамонта аўтастанцыя пераносіцца да крамы "Юбілейная" па вул. Таўкачова, дзе пачынаецца мікрараён Гагарына. Гэта будзе добра для жыхароў мікрараёна, але горш для жыхароў цэнтра і прыязджаючых вяскоўцаў. З цэнтра на аўтастанцыю трэ дабірацца некалькі кіламетраў, а вяскоўцам наадварот яшчэ трэба дабірацца ў райцэнтр. Яшчэ горш будзе з пераносам мясцовага рынку да Гарадоцкага аграрэхнічнага каледжа. Толькі мясцовыя ўлады асабліва не абмяркоўвалі з насельніцтвам часовае месца аўтастанцыі, як і іншыя пытанні па дабраўпарадкаванню Гарадка.

Само ж часовае месца знаходжання аўстанцыі **выглядае прыстасаваным толькі для выдачы білетаў**, а прыстасавання для ўкрыцця пасажыраў і г.д. на новым месцы не назіраецца. Таксама выклікае пытанне і бяспека пасадкі пасажыраў, бо гэта хутчэй за ўсё будзе рабіцца **з праезжай часткі дарогі па вул. Талкачова**.

Пры рэканструкцыі аўтастанцыі мусіць змяніцца і месца чакання мясцовых таксоўшчыкаў. Толькі яны яшчэ не вырашылі, ці варта ім перамяшчацца з цэнтра да крамы "Юбілейная". Пасажыры могуць даведацца аб знаходжанні таксовак па мабільных тэлефонах, якія маюць таксоўшчыкі.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ДАТА

*26 кастрычніка дзень народзінаў У. Караткевіча*

# МОЖНА ЎСЁ…

*Можна ўсё: пусціць каханне дымам,*
*Узяць і занядбаць мінулы шлях.*
*Але толькі - не любіць Радзімы*
*З чорнаю павязкай на вушах,*

*З чорнаю павязкаю на вуснах,*
*З чорнаю павязкай на вачах.*
*Толькі слухаць словы нездрадлівыя,*
*Толькі не тлуміць яе маной,*

*Бо адным мы вінны пакуль жывы*
*Перад нашай вялікай ніваї:*
*Праўдай абавязаны мы ёй.*
*Ісцінай.*
*Адзінаю.*
*Адной.*

МЫ Ў СВЕЦЕ

# УСХОДНЯЕ ПАРТНЁРСТВА

**Што даў Беларусі ўдзел у праграме Еўрапейскага Саюза "Усходняе партнёрства", чарговы саміт якой пройдзе ў канцы лістапада ў Вільні?**

Большинство экспертов называют Беларусь аутсайдером инициированной Евросоюзом программы “Восточное партнерство”. Насколько справедливо это утверждение, и что дало Минску участие в этом проекте?

Об этом накануне саммита “Восточного партнерства”, рассуждают белорусские аналитики и политики.

**Момент психологический и имиджевый**

“Страна по-прежнему имеет возможность геополитической альтернативы - это главное, что дало “Восточное партнерство” Беларуси”, - полагает политолог, зампредседателя Движения “За Свободу” Александра Милинкевича Алесь Логвинец. Он напоминает, что основная идея авторов проекта заключалась во втягивании Минска в сотрудничество - двустороннее и многостороннее - с ЕС и другими пятью странами-участницами программы - Азербайджаном, Арменией, Грузией, Молдавией и Украиной.

Однако, отмечает старший аналитик Белорусского института стратегических исследований (BISS) Денис Мельянцов, на уровне межгосударственных отношений “Восточное партнерство” на данный момент не дало практически ничего, за исключением того, что у Минска появились дополнительные аргументы в отношениях с Россией.

Если Москва будет не очень сговорчива в ходе различных переговоров, в том числе касающихся интеграционных проектов, у Беларуси, поясняет эксперт, есть возможность налаживать более тесные отношения с Западом.

**Противоречия и успехи**

“Сама природа и ЕС, и Пражской декларации”, которую подписали власти Беларуси, не являются аполитичными, замечает Алесь Логвинец. В декларации прямо указывается, что ЕС будет содействовать демократизации, пост-роению правового государства, а в этом плане в Беларуси слишком много проблем, напоминает эксперт.

В свою очередь Денис Мельянцов отмечает, что успехи в сфере приграничного сотрудничества напрямую не связаны с “Восточным партнерством”, речь идет о двусторонних отношениях Беларуси с Литвой, Латвией и Польшей. Причем если с Латвией проект малого приграничного движения уже работает, то в случае с Литвой и Польшей соглашения хоть и ратифицированы, но не вступили в силу. Причину Мельянцов видит в относительно лояльном отношении Риги к Минску и политических разногласиях белорусского руководства с Варшавой и Вильнюсом.

При этом аналитик BISS согласен с позицией МИД, когда речь идет о разнице отношения ЕС к Беларуси и, например, к Азербайджану.

***“Нямецкая хваля”***

АНЕКДОТ

Калі ўкраінцы хочуць у Еўропу, яны выходзяць на Майдан. Калі беларусы хочуць у Еўропу, яны з 5-й раніцы займаюць чаргу ў пасольства.

* * *

Сустрэча выпускнікоў з Беларусі:
— Дарагія аднакласнікі! Я так рады, што мы зноў сабраліся ўсе разам, хоць жыццё і раскідала нас па ўсёй Расіі…

* * *

Мужык сядзіць у бары і п'е. Іншы мужык у яго пытаецца:
- Ты навошта п'еш?
- Каб быць прыгожым.
- Пьянка цябе робіць прыгожым??
- Вядома! Калі я прыходжу дадому з бара, жонка мне ўвесь час кажа: "О! Прыйшоў, прыгажун!"

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# НЕ НАРОДЕЦ, А НАРОД

**Янукович играл между Европой и Россией, но появился новый игрок – народ.**

Это мероприятие было запланировано давно.

За неделю до Вильнюсского саммита, на котором Украина должна была подписать договор об ассоциации с ЕС, в столице Литвы концертами возле Ратуши должна была начаться культурная акция «Украина приветствует Европу, Европа приветствует Украину». Подписание перенесено. А вот концерты начались.

В субботу это было грустное зрелище. «Україна це Європа, ми будемо в Європі», - настойчиво убеждали гости. Самих себя в первую очередь. А в ответ слышались жидкие сочувствующие хлопки.

И песни казались сплошь заунывными, и погода отвратительной, и артисты замерзшими, и публика вялой, и ведущую хотелось обнять, чтобы не расплакалась…

Но в воскресенье все поменялось. В режиме онлайн передавали вести с Майдана. И закарпатская Маричка оказалась совсем не заунывной. И энергетика в ней появилась, и ритм, и жизнь…

Потому что народ вышел на площадь.

Народ! Вышел!

В самой ратуше в это время проходила конференция польских, литовский, украинских, белорусских, российских интеллектуалов. Вести с Майдана поменяли настроение и тут, среди профессиональных пессимистов. Было: «Россия… Проклятие и ужас…» Стало: «Да, ужас. Но не ужас, ужас, ужас».

И вдруг вспомнили, что Янукович до сих пор ничего не сказал. И что в феврале должен пройти саммит Украина-ЕС, так что договор об Ассоциации можно подписать на нем. И что Путин, играя в мачо, ведет политику, опасную в первую очередь для самой России. Да и кто сказал, что Россия сильна? Никто. Просто пока очень слабы ее соседи.

Это необъяснимо никакими законами физики, но энергетика с Майдана передалась за тысячи километров.

«Когда пришли вести из Киева, у меня были слезы на глазах, - признался Адам Михник. – Теперь Украина восстанет из пепла. Игнорировать народ никто не сможет. Янукович играл между Европой и Россией, но появился новый игрок – народ».

У меня слез не было. Но была радость. И гордость. Потому что если у Украины получится, то и нам потом будет легче.

Мы часто задаемся вопросом: «А зачем нужны уличные акции? Какой в них смысл?» Вот в этом и есть главный смысл – показать, что в стране есть народ. Не население, не народец, а народ. И тогда его энергетика творит чудеса.

Украина все равно будет в Европе! И Беларусь будет!

**Светлана Калинкина**
**«Народная воля»**

УСХОДНІ СУСЕД

# ШТО ПАКАЗАЛА «КАЛІЙНАЯ ВАЙНА»

**З экстрадыцыяй Уладзіслава Баўмгертнэра беларуска-расейскую «калійную вайну» можна лічыць скончанай. (Далейшы асабісты лёс гендырэктара «Ўралкалія» з гэтага гледзішча ўжо мала цікавы). Можна падводзіць вынікі.**

Найперш, варта адзначыць, што афіцыйны Менск атрымаў палітычную і псыхалягічную перамогу. Адбылася помста «Ўралкалія» за ягоныя брутальныя дзеяньні па разбурэньні сумеснага збытавога картэля — Беларускай калійнай кампаніі (БКК).

Лукашэнка дамогся прыніжэньня Расеі і ягонага кіраўніцтва. Мала таго, што былі праігнараваныя шматлікія патрабаваньні высокіх афіцыйных асобаў РФ аб вызваленьні Баўмгертнэра. Каб залагодзіць беларускія ўлады, у Менск прыяжджалі намесьнік генпракурора Расеі, сам генэральны пракурор Юры Чайка. У чарзе да Лукашэнкі сталі з падарункамі топ-мэнэджэры найбуйнейшых расейскіх дзяржаўных бізнэс-структураў: прэзыдэнт кампаніі «Роснефть» Ігар Сечын, кіраўнік «Газпрома» Аляксей Мілер і старшыня праўленьня «Ашчадбанка» Расіі Герман Грэф.

Больш за тое, сам Уладзімер Пуцін два разы прыяжджаў у Беларусь (на вайсковыя вучэньні і на саміт СНД і Мытнага саюзу), у момант, калі гендырэктар «Уралкалія» працягваў знаходзіцца пад арыштам. І, як паведамляла прэс-служба расейскага прэзыдэнта, пытаньне пра «калійнага вязьня» абмяркоўвалася на перамовах паміж прэзыдэнтамі. Просьба кіраўніка Расеі засталася без задавальненьня.

Як вядома, Менск запатрабаваў зьмены галоўнага акцыянэра «Ўралкалія». Іякгэтані выглядае дзіўна, патрабаваньне было выканана. За акцыямі Керымава нават выстраілася чарга.

Лукашэнка перавёў спрэчку паміж двума гаспадарчымі суб'ектамі ў міждзяржаўны канфлікт, вывеў яго ў палітычную і нават ідэалягічную плашчыню. І высьветлілася, што ў гэтай сфэры Расея больш залежная ад Беларусі. Масква стала закладніцай свайго праекту па стварэньні Эўразійскага саюзу, канфлікту з ЭЗ за кантроль над краінамі постсавецкай прасторы. І напярэдадні Віленскага саміту «Ўсходняга партнэрства» рукі ў яе апынуліся зьвязанымі.

Што ж тычыцца эканамічнага чыньніку, дык тут афіцыйны Менск хутчэй прайграў. Патрабаваньне да «Ўралкалія» выплаціць кампэнсацыю за шкоду, нанесеную «Беларуськалію», ня выкананае. Расея пачала эканамічны ціск. У чацьвёртым квартале былі скарочаныя пастаўкі нафты на беларускія НПЗ. Масква тармозіць падпісаньне нафтавага пагадненьня на наступны год. Антыкрызісны фонд ЭўрАзЭС затрымлівае апошні транш крэдыту. То бок «справа Баўмгертнэра» пагоршыла і без таго вострую праблему дэфіцыту валюты. Пад такім прэсінгам РФ Менск быў вымушаны вызваліць гендырэктара «Уралкалія».

«Справа Баўмгертнэра» фактычна легалізавала інстытут закладніцтва. У беларуска-расейскіх адносінах ён працуе

Яшчэ некалькі цікавых высноваў з гэтай «калійнай вайны». Напрыклад, яна паказала, што эканамічнае супрацоўніцтва разьвіваецца хутчэй «па паняцьцях», чым грунтуецца на законах і правілах. І гэта закладвае міну пад увесь праект Эўразійскага саюзу.

«Справа Баўмгертнэра» фактычна легалізавала інстытут закладніцтва. У беларуска-расейскіх адносінах ён працуе. Хачу нагадаць, што ўжо каля году ў беларускай турме знаходзіцца яшчэ адзін грамадзянін Расеі, дырэктар санаторыя «Беларусь» (Сочы) Генадзь Саракашыш. Цікава, што яго таксама, як і Баўмгертнэра, заманілі ў Менск на нараду.

Скандал вакол БКК рэзка падвысіў рызыкі інвэстыцый у Беларусі ці стварэньня нейкіх сумесных прадпрыемстваў. «Падвісьлі» пяць шырока абвешчаных праектаў па аб'яданьні беларускіх і расейскіх прадпрыемстваў. Заява гендырэктара КамАЗа, што ён не паедзе ў Менск, бо там яго арыштуюць, вельмі паказальная.

Цяпер урад, каб атрымаць валюту, заплянаваў вялікую прыватызацыйную праграму. Дык вось арышт Баўмгертнэра ў значнай ступені абясцэніў беларускія активы. Таму што ў замежных інвэстараў вялікая рызыка апынуцца ў выніку нейкай прыватызацыйнай зьдзелкі ў турме. І за гэтую рызыку давядзецца плаціць беларускаму боку.

***Валер Карбалевіч***
***“Радыё Свабода”***

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

# РЭКВІЕМ ПА МАДЭРНІЗАЦЫІ

**Моцная, але неправавая дзяржава не здольная забяспечваць доўгачасовы эканамічны рост. Тым, хто ў мітусні паўсядзённых спраў забыў, што азначае дзень 7 лістапада ў найноўшай гісторыі Беларусі, нагадаю цытату з Паслання–2013: «Программа модернизации деревообработки, когда она начнет работать с хорошей прибылью, закончится к 7 ноября этого года. Это тот рубеж, когда мы народу должны явить примеры достойной работы».**

Я рэгулярна праглядаю навіны ў інтэрнэце, але дэманстрацыі народу прыкладаў годнай працы, звязаных з рэалізацыяй вышэйзгаданай праграмы, апошнім часам штосьці не прыгадваю. Аднак у мяне не паўстала праблем з пошукам прыкладаў няўартай працы. Абмяжуюся апошнім, пра які паведаміла БЕЛТА напярэдадні знамянальнай даты: *«КДК Брэсцкай вобласці выявіў шматлікія парушэнні ў замежнаэканамічнай дзейнасці ЗАТ «Холдынгавая кампанія «Пінскдрэў». Падчас праверкі высвет-лена, што па 339 пастаўках пры экспарце тавараў на суму больш за 100 мільёнаў расійскіх рублёў на адрас 24 нерэзідэнтаў «Пінскдрэў» не забяспечыў своечасовае завяршэнне замежнагандлёвых аперацый».*




**Раніцай — грошы, увечары — крэслы**

Слова «мадэрнізацыя» ў Пасланні–2013 згадваецца 49 разоў! І не дзіўна, што мадэрнізацыя эканомікі нароўні з інфарматызацыяй грамадства і маштабным прыцягненнем моладзі да дзяржаўнага будаўніцтва разглядалася адзіным палітыкам (АП) у красавіку бягучага года ў якасці трох магутных нацыянальных праектаў, *«которые позволят обновить государство».*

Пры гэтым АП рашуча адпрэчыў абвінавачванні апанентаў («пятай калоны») у тым, што *«власти прибегли к новому предвыборному лозунгу. И, мол, все ограничится пустыми разговорами».* Не магу ўтрымацца, каб не прывесці яшчэ адну цытату: *«Они* (апаненты — С. Н.) *приходят к стран-ному выводу: якобы потенциал роста конкурентоспособности белорусской продукции исчерпан и в абсолютном выражении идет деградация нашей экономики. Поэтому, мол, нужно не модернизировать ее, а просто выбросить и принять кардинально иную модель».*

Мяркуючы па заявах чальцоў урада, лагер прыхільнікаў «странных выводов» за апошнія месяцы істотна папоўніўся, прычым за кошт… чальцоў урада. Як тут ні прыгадаць заяву кіраўніка Нацыянальнага статыстычнага камітэта Уладзіміра Зіноўскага з нагоды нулявой вагі інавацыйнай прадукцыі, прынцыпова новай для сусвету, у выпуску Мінпрама. І гэта нягледзячы на маштабную мадэрнізацыю!

Міністр эканомікі **Мікалай Снапкоў** не менш рашуча ліў ваду на млын апанентаў. Прыгадаем яго словы: *«Дадад-зены кошт у цэлым па Мінпраме на гэты момант у 5 разоў ніжэй, чым у нашых канкурэнтаў. Гэта звязана найперш з выдаткамі на навуковыя даследаванні і распрацоўкі, якія не перавышаюць 0,5% ад выручкі ($4 мільёны). У той жа час такі канкурэнт, як «Джон Дзір», выдаткоўвае штогод 4–5% ад валавога прыбытку, што адпавядае $0,5-1,2 мільярда. Адпаведна, ён з'яўляецца адным з лідараў у інавацыйных тэхналогіях».*

Без грошай паставіць на паток вытворчасць інавацыйных тэхналогій, зразумела, немагчыма. Тут як у вядомай гісторыі, апісанай Ільлёй Ільфам і Яўгенам Пятровым у знакамітым рамане: «раніцай — грошы, увечары — крэслы».

Сучасны эканамічны рост заснаваны на мадэлі навукова-тэхнічнага прагрэсу (НТП). Першымі яе асвоілі еўрапейцы, але для гэтага ім трэба было прайсці праз стагоддзе рэлігійных войнаў паміж каталікамііпратэстантамі.Нягледзячына шматлікія ахвяры выявіць пераможцаў у тых войнах так і не атрымалася. Але менавіта гэты факт і прызнаецца сёння ў якасці галоўнага выніку рэлігійных войнаў. Ён ліквідаваў манапалізм царквы на праўду, што дазволіла, у прыватнасці, адмяніць забарону на збіранне банкаўскага працэнта. Такім чынам, была знятая галоўная перашкода на шляху фармавання сучаснай фінансавай сістэмы.

**Нішто сабе карэктыровачка!**

Перафразую класіка: раніцай — грошы, увечары — інавацыі. Аднак сам факт наяўнасці грошай аўтаматычна не вядзе да стварэння інавацыі. Справядлівасць гэтай высновы прэм'ер-міністр **Міхаіл Мясніковіч** праілюстраваў на лютаўскім пасяджэнні Саўміна.

Паводле агучанай другой асобай дзяржавы інфармацыі, за сем гадоў у прамысловасць Беларусі ўкладзена $31,5 мільярда інвестыцый, а атрымана дададзенага кошту толькі на $19,2 мільярда.

Але ж планы будаваліся напалеонаўскія. Іх ініцыятары зыходзілі з разліку, што *«каждый вложенный рубль инвестиций должен давать 2–3 рубля добавленной стоимости».* Але рубель не апраўдаў ускладзеных на яго надзей. Адказваць жа за яго няздольнасць укладвацца ў «беларускую мадэль эканамічнага развіцця» сёння даводзіцца чыноўнікам, у тым ліку і тым, што займаюць вышэй-шыя дзяржаўныя пасты.

Мне ўжо неаднаразова даводзілася адзначаць, што асноўнае пытанне любой мадэрнізацыі — гэта пытанне яе суб'екта. У рамках айчыннай мадэлі такім з'яўляецца чыноўнік ужо ў сілу таго факту, што функцыянаванне айчыннай мадэлі не прадугледжвае існавання іншых суб'ектаў. Яна монасуб'ектна па сваёй прыродзе.

Тут самы час звярнуцца па дапамогу да сацыёлага **Георгія Сатарава**: *«Рухацца наперад можна толькі на дзвюх нагах. А ў нас нага пад назвай «улада» лічыць нагу пад назвай «грамадства» чымсьці лішнім і цяжкім. А ў выніку мы з-за гэтага адчуваем сябе нейкімі адсталымі. Ёсць краіны перадавога фронту, яны ідуць у будучыню, а мы дзесьці ў другім і трэцім эшалоне. Але знаходжанне ў перадавой хвалі забяспечваецца толькі рухам на дзвюх нагах. Прычым першы крок у будучыню робіць менавіта грамадства».*

Да чаго можна даскакацца на адной назе? Мой варыянт адказу — да рэвалюцыйнай сітуацыі. Нагадаю яе вызначэнне ў ленінскай трактоўцы: *«Для рэвалюцыі недастаткова таго, каб нізы не хацелі жыць, як раней. Для яе неабходна яшчэ, каб вярхі не маглі гаспадарыць і кіраваць, як раней».*

Што такое эфектыўная ўлада (эфектыўныя вярхі)? Гэта ўлада, якая ставіць перад сабой задачы і выконвае іх, ці, кажучы словамі АП, гэта ўлада, здольная народу *«явить примеры достойной работы».*

Пасля трэціх прэзідэнцкіх выбараў папаўняць спіс такіх прыкладаў *«достойной работы»* ва ўлады атрымоўвалася з кожным годам усё горш, а пасля чацвёртых — справа зусім застапарылася. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова адкрыць Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011–2015 гады, ухваленую чацвёртым Усебеларускім народным сходам.

Абмяжуюся адным прыкладам: у 2015 годзе запланавана пабудаваць 9,5–10 мільёнаў квадратных метраў жылля. План на бягучы год — 6,5 мільёна квадратных метраў. Выкананы ён будзе працэнтаў на 70. Гэта не мая здагадка. Гэта ўдакладнены ў кастрычніку прагноз урада. Але ў 2014 годзе наша выканаўчая ўлада плануе пабудаваць 2,5 мільёна квадратных метраў. Нішто сабе карэктыровачка!

***

8 лістапада на недагледжанай тэры-торыі ААТ «Барысаўдрэў» прагучалі магутныя акорды «Рэквіема па мадэрнізацыі» («рэквіем» ад лацінскага «requiem», літаральна «(на) спачын» — памінальная служба ў каталіцкай і лютэранскай цэрквах, адпаведае памінальнай літургіі ў праваслаўнай царкве). Але «Рэквіем па мадэрнізацыі» не варта разглядаць у якасці самастойнага музычнага твора. Ён — усяго толькі ўверцюра «Рэквіему па сацыяльных абавязках дзяржавы, прынятых на чацвёртым Усебеларускім народным сходзе».

Беларускаму грамадству на ўсведамленне наступстваў «музычнай» прэм'еры спатрэбіцца час. Спадзяюся, што не больш за 3–4 месяцы.

*(у скарачэнні)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

*(поўнасцю на сайце: http://novychas.info/palityka/rekvijem_pa_madernizacyi1/)*

ПАДАТКІ

# МЯСНІКОВІЧ НАЗВАЎ ПАМЕР ПАДАТКУ НА АЎТО

**Уладальнікам «Жыгулёў» прыйдзецца заплаціць Br390 тысяч дзяржпошліны ў год, «Мэрсэдэса» - Br1 мільён.**

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч лічыць непапулярнай, але неабходнай мерай ўвядзенне дзяржпошліны на допуск да руху транспартных сродкаў, піша «Інтэрфакс» .

«Для «Жыгулёў» гэта складзе Br390 тыс. у год, для «Фальксвагена» - Br650 тыс., за «Мэрсэдэс» трэба будзе выплаціць Br1 млн. Усё гэта мэтавым чынам пойдзе на дарогі», - заявіў кіраўнік урада, выступаючы ў пятніцу ў «парламенце».

«Так, мера можа быць непапулярная, але мы прасілі б вас падтрымаць», - сказаў Мясніковіч, звяртаючыся да «парламентарыяў».

Ён таксама адзначыў, што гэты год быў "вельмі складаным" характарызуецца «збегам неспрыяльных знешніх умоў і ўнутраных фактараў», піша БелаПАН.

«Пагоршыліся ўмовы гандлю ў калійнай і нафтавай сферах. Паводле ацэнак, за кошт пагаршэння знешніх фактараў мы недабралі 5,4% ВУП», - сказаў Мясніковіч. У такіх умовах, адзначыў ён, "галоўнае - захаваць калектывы, рынкі, працаваць рэнтабельна» .

Мясніковіч яшчэ раз заявіў, што крыніцамі папаўнення золатавалютных рэзерваў і забеспячэння выплат па вонкавым дзярждоўгу ў Беларусі павінны з'яўляцца сродкі ад прыватызацыі дзяржуласнасці.

«Мы лічым, што нарошчваць золатавалютныя рэзервы і выплачваць міжнародныя даўгі трэба толькі за кошт прыватызацыі, і тады можна будзе падтрымліваць у нармальным стане плацежны баланс і забяспечваць эканамічную бяспеку», - заявіў ён.

«Гэта бяспечней, чым браць новыя крэдыты. А то ў нас жа як бывае: грошы ўзялі і прасвісталі іх невядома куды», - дадаў кіраўнік урада .

Мясніковіч нагадаў, што ў 2014 годзе Беларусь разлічвае атрымаць ад прыватызацыі дзяржуласнасці $2,5 млрд.

**"Наша Ніва"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.11.2013 у 19.10** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.